www.nv-online.info

№ 75 (4020)

25 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УВАГА!

## Толькі сёння і заўтра

*Вы можаце падпісацца на “Народную Волю”, з тым каб атрымліваць газету з 1 кастрычніка.*
*Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.*
**Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!**

ПРАТЭСТ

# За Беларусь без чужых ваенных баз!

*23 верасня ў офісе АГП адбылася сустрэча прадстаўнікоў палітычных і грамадска-палітычных арганізацый па выпрацоўцы агульнай пазіцыі па пытанні размяшчэння замежных ваенных баз на тэрыторыі Беларусі.*
*Падчас сустрэчы грамадскія дзеячы і лідары апазіцыі Уладзімір Някляеў, Анатоль Лябедзька, Мікола Статкевіч, Аляксей Янукевіч, Юрась Губарэвіч, Вячаслаў Сіўчык, Вацлаў Арэшка выпрацавалі сумесную пазіцыю і падпісалі заяву «За Беларусь без чужых ваенных баз!».*
*Далучыцца да заявы далі згоду таксама сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД Павел Севярынец і актывісты незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт», прадстаўнікі аргкамітэта па аднаўленні дзейнасці беларускай жаночай партыі «Надзея».*



Вось тэкст гэтага дакумента:

– Дамова аб размяшчэнні на тэрыторыі Беларусі расійскай ваеннай базы можа быць падпісана ў бліжэйшым часе. Гэта згубны крок, які можа прывесці да страты незалежнасці Беларусі. Гэта здрада нашым нацыянальным інтарэсам, здрада народу і краіне.

Папярэджваць пра гэта пасля падпісання дамовы будзе позна, мы павінны выступіць супраць гэтага зараз, канстатуючы, што:

– размяшчэнне на беларускай зямлі іншаземнай ваеннай базы супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкулу 18, паводле якога Беларусь – краіна, якая імкнецца да нейтралітэту;

– дзейны кіраўнік краіны, які парушыў Канстытуцыю і, мы лічым, ад 1996 года не з’яўляецца легітымным прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, не мае права падпісваць дакументы і прымаць рашэнні, што вызначаюць лёс беларускага народа;

– з’яўленне расійскай ваеннай базы верне Беларусь у стан міжнароднай ізаляцыі, паставіць неадольныя перашкоды на шляху інвестыцый, новых тэхналогій, эканамічнага развіцця;

– падпісанне дамовы аб ваеннай базе Расіі, якая выяўляе сябе краінай-агрэсарам, наўпрост уцягвае Беларусь у ваеннае супрацьстаянне з краінамі ЕС, нашымі суседзямі ў Еўропе, пагражае еўрапейскаму міру і бяспецы;

– прысутнасць расійскай ваеннай базы ператварае Беларусь у плацдарм вайны, робіць яе ваеннай мішэнню, ставіць пад рэальную пагрозу само жыццё беларусаў.

Мы заяўляем, што нашай зямлі, нашаму народу хапіла войнаў, страт, крыві. Гэта было лёсам нашых дзядоў, бацькоў – і мы не можам дапусціць, каб яно паўтарылася ў лёсах нашых дзяцей. Таму ўсе спробы размяшчэння іншаземных ваенных баз мы мусім разглядаць як акты агрэсіі ў адносінах да Рэспублікі Беларусь.

Мы патрабуем неадкладна спыніць перамовы пра новую расійскую ваенную базу ў Беларусі, а таксама ў разумныя тэрміны пачаць працэс вываду з нашай тэрыторыі прысутных расійскіх ваенных.

ТЫМ ЧАСАМ

Некаторыя структуры ўжо пачалі збор подпісаў грамадзян супраць размяшчэння ў Беларусі расійскай ваеннай базы. Так, у мінулыя выхадныя хрысціянскія дэмакраты ладзілі такі збор на рынках і цэнтральных вуліцах Слоніма, Брэста і Гомеля.

Супраць размяшчэння расійскай ваеннай базы ў тым выглядзе, у якім прапануецца, выступіў нават кандыдат у прэзідэнты, казак генерал Мікалай Улаховіч. На яго думку, калі і размяшчаць базу, то служыць і працаваць на ёй павінны грамадзяне Беларусі, а не грамадзяне Расіі. Афіцыйныя ўлады ад каментарыяў пакуль устрымліваюцца. Але гэта не тая сітуацыя, калі можна прамаўчаць. Таму зразумела пазіцыя грамадскіх актывістаў, якія рубам ставяць пытанне аб небяспецы, якую тоіць размяшчэнне расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі.

АКЦЫЯ



# Лукашэнка не адгукнуўся на прапанову Статкевіча…

У цёплы восеньскі вечар 23 верасня на плошчы Свабоды ў Мінску сабралася пару соцень чалавек. На першы погляд няшмат. Але за ўвесь час выбарчай кампаніі гэта аказалася самае масавае вулічнае мерапрыемства.

Адны прыйшлі на прапанову былога палітвязня Мікалая Статкевіча, іншыя – па загадзе свайго кіраўніцтва. Прычым апошнія, так званыя людзі ў цывільным, назіралі за мерапрыемствам, рабілі відэатрансляцыю, фатаграфавалі, проста стаялі і назіралі за натоўпам, карацей, кожны рабіў сваю справу.

Мерапрыемства было задумана як сустрэча з выбаршчыкамі, а ператварылася ў імправізаваны мітынг. Выступалі і **Мікалай СТАТКЕВІЧ**, і **Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**, і **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА**. Напярэдадні Мікалай Статкевіч праз інтэрнэт задаў пяць пытанняў Аляксандру Лукашэнку, таму абвясціў: *«Мы будзем чакаць чалавека, якому я задаў свае пяць пытанняў. Калі ён не прыйдзе адказаць на гэтыя пытанні, то я нагадаю іх, і мы абмяркуем, ці можа гэты чалавек займаць сваю пасаду. Магчыма, трэба даць яму іншы шанц і сабрацца ў другі раз».*

Як і можна было прадбачыць, Аляксандр Лукашэнка на прапанову Статкевіча не адгукнуўся. Таму апошняму пазней давялося агучыць пытанні да яго. Першае з іх: ці не збіраецца Лукашэнка быць прэзідэнтам краіны да самай сваёй смерці? Другое: ці не трымаецца А.Лукашэнка за ўладу дзеля таго, каб не несці адказнасці за знікненне вядомых палітыкаў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага і бізнесмена Анатолія Красоўскага? Трэцяе: ці не ставіць працяг прэзідэнцтва А.Лукашэнкі пад пагрозу дзяржаўнасць Беларусі? Чацвёртае: адсутнасць палітычных і эканамічных свабод – ці не няшчасце гэта для народа? Пятае: русіфікацыя Беларусі – ці не аблегчаны гэта варыянт здачы незалежнасці нашай краіны расійскім імперцам?

...Неўзабаве да ганка гарадской ратушы падышлі супрацоўнікі міліцыі і пачалі складаць пратаколы на выступоўцаў. Раней адміністрацыйныя пратаколы складаліся за сход каля ГУМа. У дачыненні да Статкевіча ўжо была заведзена справа за правядзенне несанкцыянаванага пікета каля ГУМа 10 верасня. 22 верасня суд Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваў палітыка максімальным штрафам па гэтым артыкуле – 40 базавых велічынь (7,2 мільёна рублёў). Новыя пратаколы прадугледжваюць пакаранне арыштам.

Нагадаем: экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікалай Статкевіч выйшаў на волю 22 жніўня пасля чатырох гадоў і васьмі месяцаў зняволення па абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень галасавання 19 снежня 2010 года. Ён вызваліўся раней за тэрмін разам з іншымі палітвязнямі па ўказе Аляксандра Лукашэнкі аб памілаванні. Прашэння аб памілаванні Статкевіч не пісаў. Пасля вызвалення за Статкевічам адразу ўстанавілі прафілактычнае назіранне тэрмінам на восем гадоў. Калі на працягу года былы палітвязень дапусціць тры правапарушэнні, то яму можа пагражаць пазбаўленне волі. Між тым Мікалай Статкевіч заявіў, што не лічыць сябе вінаватым. Пры гэтым ён спасылаецца на закон, які дазваляе грамадзянам збірацца і выказваць свае меркаванні, тым больш падчас выбарчай кампаніі.

Палітыкі заклікалі такім жа чынам сабрацца і абмеркаваць сітуацыю з размяшчэннем расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі 3 кастрычніка, а за дзень да галасавання, 10 кастрычніка, абмеркаваць прэзідэнцкія выбары.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СІТУАЦЫЯ

# Следам за ківі паспела папая...

*Расійскія чыноўнікі не паверылі, што Беларусь пастаўляе ў Расію садавіну, якая вырасла выключна на беларускай зямлі, і папрасілі растлумачыць паходжанне некаторых тавараў, што пастаўляюцца ў Расію.*

У мінулым нумары «Народнай Волі» мы расказвалі пра цікавую сітуацыю. Беларусь значна павялічыла пастаўкі ў Расію ківі, якія ў нашай краіне не вырошчваюць. Праўда, эканамісты патлумачылі, што кантрабанды з нашага боку тут няма. Гэта рээкспарт тавару. Расія ўвяла санкцыі на імпарт прадуктаў з краін Еўрасаюза, а беларускія кампаніі гэтым умела скарысталіся. Яны закупляюць садавіну і гародніну ў трэціх краінах і затым пастаўляюць у Расію. Выгадна і расіянам – людзі не застаюцца без дэфіцытных прадуктаў, і невялікім беларускім кампаніям – яны зарабляюць на гэтым грошы.

Днямі стала вядома, што рэзка павялічыўся імпарт з Беларусі ў Расію яшчэ адной экзатычнай садавіны – папаі. А пасля таго, як Федэральная служба па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе Расіі правяла аналіз падкаранціннай прадукцыі беларускай вытворчасці, высветлілася, што некаторыя садавіна і ягады (клубніцы, ажына, маліна), хоць і растуць у Беларусі, але пастаўляюцца ў Расію ў *«нехарактэрны перыяд паспявання»* і маркіруюцца як беларускія. Адным словам, расійскія чыноўнікі справядліва ўсумніліся ў тым, што беларускія ажына і іншыя ягады растуць у жніўні і верасні.

“Россельхознадзор” тут жа запатрабаваў ад Мінска тлумачэнняў – інфармацыю пра беларускіх вытворцаў, аб’ёмах вытворчасці, экспарту і ўнутранага спажывання той агародніны і садавіны, якія пастаўляюцца ў Расію. Прычым ведамства заявіла, што са снежня 2014 года беларускі бок *«ніяк не рэагуе на шматлікія звароты “Россельхознадзора»*.

Праўда, некаторыя тлумачэнні з нагоды рээкспарту прадуктаў усё ж такі гучалі. Нядаўна на прэс-канферэнцыі кіраўнік Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі **Юрый Сянько** запэўніваў, што Беларусь выконвае свае абавязацельствы па недапушчэнні пранікнення на беларуска-расійскую мяжу санкцыённых тавараў. І няма ніякіх парушэнняў у тым, што ў Расію пастаўляюцца, напрыклад, беларускія морапрадукты. Бо мідыі, крэветкі, асьміногі і г.д., паводле слоў Сянько, паступаюць у Беларусь у сырым выглядзе, праходзяць апрацоўку, падрыхтоўку і фасоўку і таму могуць лічыцца беларускімі таварамі.

Але як растлумачыць паходжанне беларускіх папаі і клубніц з ажынай, саспелых у верасні? Памочнік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Мікалай Чупік** заявіў учора “Народнай Волі”, што ўстрымліваецца каменціраваць просьбу расіян растлумачыць паходжанне некаторых тавараў. *“Гэта магчымасці і жаданне “Россельхознадзора” – зладзіць праверку з нашай згоды*, – заявіў ён. – *Якія могуць быць каментарыі?..”*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

## Анатолий ШУМЧЕНКО:

# «Я хочу быть представителем предприимчивых белорусов…»

*Индивидуальные предприниматели вновь собираются на свой форум. «Мелкие лавочники», которых государство обещало уничтожить, как «вшивых блох», не только выжили, но и научились отстаивать свои права. С 2002 года локомотивом борьбы ипэшников за свои интересы является республиканское общественное объединение «Перспектива». С его основателем и лидером* ***Анатолием Шумченко*** *беседует журналист «Народной Воли» Василий Сергейчик.*



***(Читайте на 2-й стр.)***

ДИПЛОМАТИЧЕСКИЙ КЛУБ



## Петер ДЕТТМАР,

Чрезвычайный и Полномочный Посол Федеративной Республики Германия в Республике Беларусь:

# «Я сам ходатайствовал о назначении в Беларусь...»

В немецкой дипмиссии в Беларуси новый руководитель – **Петер Деттмар.** По традиции мы знакомим наших читателей с дипломатами высокого ранга, которые недавно прибыли в нашу страну. Хотя, возможно, кому-то доводилось встречаться с господином Деттмаром – в 2009–2013 годах он работал в Посольстве Германии в Беларуси в должности заместителя главы дипмиссии.

### «Конкуренция была высокой»

**– Господин посол, ваша ситуация, когда дипломат, работавший заместителем главы дипмиссии, через пару лет возвращается в эту же страну, но уже послом, – обычная практика в дипломатическом мире или исключение? Может быть, вы сами подали заявку на работу в Беларуси, потому что хорошо знакомы с нашей страной?**

– Скорее это необычно, когда очередное назначение связано с тем же местом работы, на котором ты уже какой-то период трудился. Тем более когда речь идет о назначении на должность руководителя посольства. Но это бывает.

***(Окончание на 6-й стр.)***

РЭЗАНАНС

# Падтрымліваем ідэю Міколы Ярмашэвіча

Мы з цікавасцю прачыталі ў “Народнай Волі” артыкул Міколы Ярмашэвіча “Помнік-манумент – беларускай мове”, які быў надрукаваны ў нумары за 15 верасня. Падтрымліваем ідэю, выказаную паважаным аўтарам. Яго ініцыятыву мы абмяркуем на пасяджэнні сакратарыята. Пра наша рашэнне паведамім усім зацікаўленым бакам.

**Алег ТРУСАЎ, старшыня грамадскага аб’яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны».**

